# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 35 (1737) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 27 ЖНІЎНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.




*Беластоцкія настаўнікі перад Мінскім педінстытутам. У першым радзе, на кукішках, Міхась Раманюк.*

## У МІНСКУ З НАСТАЎНІКАМІ

Яшчэ ўзімку, калі я працаваў сакратаром ГП БГКТ, удалося мне абсправіць выезд у Мінск разам з настаўнікамі беларускай мовы з Беласточчыны, якія збіраліся туды на курсы павышэння кваліфікацыі ў Мінскі дзяржаўны педінстытут імя А. М. Горкага. Курсы такія арганізуюцца штогод, і штогод прымае ў іх удзел група 20 настаўнікаў. Меркаванне ў мяне было такое, каб на месцы прыглядзецца і прыслухацца да праблемаў, якія ўзнікаюць у навучанні роднай мовы як тут на Беласточчыне, так і там, на Беларусі, паколькі на сваёй бэгакатоўскай пасадзе я быў непасрэдна адказны за супрацоўніцтва Таварыства з настаўнікамі беларускай мовы. І вось 3 ліпеня я апынуўся на чыгуначным вакзале ў Мінску як кіраўнік 19-асобовай групы і адначасова ўжо як журналіст „Нівы". Дзякуючы клапатлівасці нашых мінскіх гаспадароў, а таксама і памяркоўнай дысцыплінаванасці цэлай групы, я не надта стаміўся, выконваючы кіраўнічыя абавязкі, якія мне ўдалося даволі добра палагодзіць са сваімі журналісцкімі зацікаўленнямі. Аб гэтым, як спадзяюся, будзе яшчэ нагода расказаць у будучым, а сягоння мне хочацца раздзяліцца некаторымі ўражаннямі ад побыту нашай групы ў Мінскім педінстытуце.

Лёс нам надзвычай паспрыяў: атрымалі мы цудоўных апекуноў у асобах Міколы Георгіевіча Яленскага і Ірыны Мікалаеўны Саматы, навуковых супрацоўнікаў педінстытута. Галоўны клопат пра нашы надзённыя справы яны з самаадданасцю ўзвалілі сабе на плечы, ахвяруючы дзеля таго свой час і здароўем. Надвор'е ў Мінску на працягу ліпеня радыкальна мянялася, але і ў гарачыню, і ў слоту, яны заўсёды былі побач з намі, гатовыя несці дапамогу і вырашаць усе нашы праблемы. Маю адно надзею, што ўжо нейк акрыялі пасля тлумнага ліпеня і лёс захаваў іх у добрым здароўі. Ад свайго імя і ад усіх настаўнікаў прыношу ім шчырую падзяку за іхнія турботы і сардэчнасць.

Расквартараваліся мы ў інтэрнаце педінстытута, усяго 10 хвілін на тралейбусе ад месца заняткаў. Заняткі пачыналіся ў 9.30 і канчаліся каля другой гадзіны. Тэматыка іх была разнастайная: вяліся гутаркі па педагогіцы, методыцы навучання беларускай мовы і літаратуры, па гісторыі Беларусі. Менавіта форма курсаў, якая не абмяжавалася толькі выслухоўваннем сухіх дакладаў і пазяханнем, а хутчэй за ўсё нагадвала нязмушаную гутарку з дыскусіямі, спрэчкамі ды абменам педагагічнага вопыту, прыйшлася настаўнікам дужа даспадобы. Тым болей, што пан Мікола, які складаў мерытарычны план заняткаў і вёў нагляд над яго рэалізацыяй, пастараўся запэўніць у курсах удзел выдатных спецыялістаў у сваёй галіне ці проста цікавых і адметных людзей. Паколькі немагчыма напісаць пра ўсіх, мне б хацелася ўпамянуць некаторых, спатканне з якімі мне асабліва запамяталася. Перш-наперш я хачу ўпамянуць Міхася Раманюка, мастацтвазнаўцу, дацэнта Мінскага тэат-

(Працяг на стар. 6)

## НАШЫЯ Ў ПОЛЬСКІМ „Who's Who"

Некалькі месяцаў назад выдавецтва „Інтэрпрэсс" выпусціла другое выданне (першае паявілася ў 1984 г.) біяграфічнага інфарматара „Хто ёсць кім у Польшчы". У ім змешчаны 4603 біяграфічныя ноты, у тым ліку 1657 новых. З вялікай прыемнасцю паведамляю, што, гартаючы старонкі даволі тоўстага тома, знайшоў я і беларускія акцэнты, якіх у першым выданні не прыкмеціў.

46 радкоў адведзена праф. Антаніне Абрэмбскай-Яблонскай (ур. 1901 г.), былому кіраўніку (1957-62) і прафесару (1963-71) Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, а раней (1953-57) кіраўніку Аддзела ўкраінскай і беларускай філалогіяў Польска-савецкага інстытута ў Варшаве. У гадах 1958-68 праф. Абрэмбская-Яблонская кіравала таксама Працоўняй беларускай філалогіі Інстытута славяназнаўства ПАН. Чытачы „Нівы" напэўна ведаюць і тое, што прафесар з'яўляецца рэдактарам V, VI і VII тамоў „Люду беларускага" М. Федароўскага, выдадзеных у 1958, 1960 і 1969 гадах. Яна таксама рэдагавала і крытычна апрацавала тарашкевічоўскі пераклад на беларускую мову „Пана Тадэуша" А. Міцкевіча (кніжка надрукавана ў 1984 г.). Зацікаўленні А. Абрэмбскай-Яблонскай — гаспадарчыя пытанні і панарама свету.

38 радкоў прысвечана старшыні ГП БГКТ, д-ру Аляксандру Баршчэўскаму, ураджэнцу сяла Бандары (1930 г.). Падаюцца яго прафесіянальны і грамадскі шляхі, называюцца найважнейшыя адзнакі і літаратурныя творы. З ноты можна даведацца і пра тое, што наш паэт, перакладчык і публіцыст, свабодны час праводзіць працуючы ў сельскай гаспадарцы, а яго хобі — збіранне самавараў.

У 41 радку зачыняецца біяграфія нашага вядомага вучонага — біёлага і эколага, праф. Васіля Чачугі, ураджэнца вёскі Плюцічы (1930 г.). Ён выкладчык і кіраўнік (ад 1963 г.) Кафедры агульнай біялогіі Медыцынскай акадэміі ў Беластоку. Член шматлікіх краёвых і замежных навуковых арганізацый і таварыстваў. Апублікаваў звыш 370 навуковых прац, галоўным чынам у замежных часопісах. Любіць збіраць грыбы.

У 85 радках рэкамендуецца ўраджэнец пасёлка Відава

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)

## НАШЫЯ Ў ПОЛЬСКІМ „WHO'S WHO"

(1932 г.), прафесар Васіль Белаказовіч. Ён закончыў філалагічна-гістарычнае аддзяленне Універсітэта ў Горкім, а таксама філалагічнае і гістарычнае аддзяленні Універсітэта ў Ленінградзе. Зараз з'яўляецца выкладчыкам Варшаўскага універсітэта і кіраўніком працоўні ўсходнеславянскіх літаратур ПАН. Напісаў звыш 350 прац, у іх ліку змяшчающа працы, прысвечаныя беларускай літаратуры. Прафесар збірае кніжкі, любіць таксама чытаць мемуары і стэнаграмы з прэсавых канферэнцый міністра Е. Урбана.

У біяграфіі іншага філолага, праф. Альберта Барташэвіча (ур. 1942 г.) успамінаецца, што сярод яго прац ёсць прысвечаныя і беларускаму мовазнаўству, а таксама польска-руска-беларускай кампаратывістыцы. Дарэчы, А. Барташэвіч з'яўляецца сааўтарам (з Ірэнай Камендацкай) выдадзенага ў 1988 г. Варшаўскім універсітэтам чатырохтомнага „Słownika a tergo współczesnego języka białoruskiego". Свабодны час праводзіць на шпацырах па лесе і лугах.

У 33 радках прадстаўлены дзяржаўны дзеяч і эканаміст Сяргей Рубчэўскі, ураджэнец вёскі Цярэмкі (1927 г.). Ён у гадах 1950-56 працаваў у ВП ЗМП у Беластоку, потым (1960-61) І сакратаром ВП ЗМС там жа. У 1961 г. перайшоў на працу ў ВК ПАРП у Беластоку і працаваў у ім да 1972 г. Зараз з'яўляецца (ад 1973 г.) ольштынскім ваяводам. Свабодны час найахвотней праводзіць, працуючы на дзялцы або абрабляючы драўніну. Зацікаўленні — паляўніцтва.

18 радкоў выпала на радыёжурналіста Яна Смыка, ураджэнца вёскі Дабрывада (1951 г.). Ён спачатку (у гадах 1977-82) працаваў у Сельскагаспадарчай рэдакцыі Польскага радыё ў Варшаве, а зараз у Радыёвяшчальнай станцыі ў Беластоку. За свае рэпартажы атрымаў 19 узнагарод. Зацікаўленні — гадзіннікавая справа і майстраванне.

У інфарматары знойдзем таксама біяграфію мітрапаліта варшаўскага і ўсяе Польшчы Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы а. Васіля Дарашкевіча, ураджэнца вёскі Ціцы (1914 г.).

Можна было б яшчэ прывесці некалькі прозвішчаў людзей, якія, мабыць, з нашай нацыі, але ці яны да яе прызнаюцца? На ўсякі выпадак — каб не кампраметаваць сябе — прамаўчу іх. З жалем сцвярджаю, што надалей няма ў інфармацыі біяграфіі Сакрата Яновіча, не гаворачы ўжо пра іншых нашых літаратараў. Мо месца адпусцяць у трэцім выданні.

Чытач, які хацеў бы купіць інфарматар „Хто ёсць кім у Польшчы", павінен выслаць заказ на адрасу: ORPAN — Dział Wydawnictw Krajowych, Pałac Kultury i Nauki, 00-901 Warszawa. Мо яшчэ яго маюць у продажы? Цана аднаго экземпляра 12 тысяч злотых.

**Пётр Байко**

# У МІНСКУ З НАСТАЎНІКАМІ

(Працяг са стар. 1)

ральна-мастацкага інстытута, аўтара каласальнага выдання „Беларускае народнае адзенне", які падзяліўся з намі небанальнай рэфлексіяй наконт беларускай народнай культуры ў яе разнастайных, багатых праявах. Дацэнт Аляксей Рагуля, літаратуравед, гаварыў пра істотныя з'явы ў сучаснай беларускай літаратуры, па-новаму асэнсоўваючы праблему яе навуковай перыядызацыі і ролю паасобных пісьменнікаў у стварэнні духоўных каштоўнасцяў. Цікава выпалі спатканні з маладым Пётрам Садоўскім і кіраўніком адзінага на Беларусі чытальніцкага тэатра Андрэем Калядам, які вучыў нас умельству мастацкага чытання тэксту. Аб праблемах навучання беларускай мовы ў малодшых класах гаварыў сам Мікола Яленскі, дацэнт у педінстытуце і аднačасова настаўнік-практык беларускай мовы ў адной са школ Мінска. Дарэчы будзе тут сказаць, што Мікола Яленскі з'яўляецца аўтарам падручнікаў беларускай мовы для пачатковых класаў. Так што, калі хто не паленаваўся слухаць, мог хапіць салідную порцыю ведаў.



*Група на занятках.*

Нельга таксама не ўспомніць пра сустрэчу ў Доме літаратара з Міколам Ермаловічам, чалавекам, які па-новаму глянуў на старажытны перыяд гісторыі Беларусі, аўтарам шырокавядомага нарысу „Старажытная Беларусь". І ўжо мая малая прыватная сатысфакцыя, як аднаго з арганізатараў конкурсу беларусаведы ў г.г.: Мікола Ермаловіч з задавальненнем адзначыў факт выкарыстання ягонага нарысу ў конкурсе для вучняў сярэдніх школ на Беласточчыне.



*На сустрэчы з Міколам Ермаловічам.*

Арганізацыяй вольнага часу пасля заняткаў займалася пані Ірына. Дзе ж гэта мы не былі і чаго не пабачылі?! Наведалі музей Янкі Купалы ў Мінску, былі на Свяце беларускай паэзіі ў Вязынцы, пабачылі Мір і Навагрудак, пакланіліся ахвярам Хатыні, наведаліся ў Дзяржаўны музей, глядзелі выступленне танцавальна-вакальнага ансамбля „Харошкі", схадзілі ў Тэатр музычнай камедыі на аперэту „Вясёлая ўдава", хадзілі глядзець п'есу ў пастаноўцы славутага МХАТа, што прыехаў на гастролі ў Мінск. І гэта далёка не ўсё, што было ў спіску незабыўнай пані Ірыны, якая, пабачыўшы, што мазгі нам дымяць ад ўражанняў, пад канец дала нам крыху спуску і дзеля адпружання завяла ў цырк. Ажно самому не верыцца, калі гэта пералічыў, што ўсё яно далося ўкласці ў рамкі аднаго месяца і выканаць без хібаў. А на развітанне ўсе паехалі над Нёман, на радзіму Якуба Коласа. Некаторыя справы першаступеннай важнасці затрымалі мяне ў Мінску, і пра тую паездку я ўжо даведаўся з усхваляваных пераказаў курсанта Славаміра Трашчоткі і болей памяркоўных, але

**МІКОЛА ІВАНОЎ**

# ДА ГІСТОРЫІ СТАЛІНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ

(Працяг са стар. 5)

не ўсіх вышэй пададзеных фактараў савецкую нацыянальную палітыку міжваеннага перыяду можна падзяліць на тры характэрныя часткі:

1. 1921—1928 г.г. Гэта быў перыяд унікальнага, выключнага ў сэнсе маштабнасці і зместу, пашырэння правоў усіх без выключэння народаў і нацыянальнасцяў Савецкага Саюза. Перыяд гэты меў рашаючы ўплыў на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці шматлікіх нацыянальных груп. У літаратуры ён атрымаў назву „нацыянал-нэп". Партыя, у якой яшчэ жывы былі ленінскія традыцыі, у якасці галоўнай небяспекі на ідэалагічным фронце прызнала рускі вялікадзяржаўны шавінізм і на барацьбу з ім мабілізавала ўсе свае сілы.

2. 1929 — 1935 г.г. Перыяд выразнага абмежавання правоў нацыянальных меншасцяў, перыяд, абумоўлены пачаткам так званага „сталінскага наступлення сацыялізму на ўсім фронце". Партыя спыніла супрацоўніцтва з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў, якія не падзялялі класавай пралетарскай ідэалогіі. Спынілася ажыццяўленне „карэнізацыі" і „нацыяналізацыі". На ідэалагічным фронце месца вялікадзяржаўнага шавінізму ў якасці галоўнай небяспекі заняў так званы мясцовы нацыяналізм. Ахвярамі сталінскіх рэпрэсій сталі нацыянальныя дзеячы, якія зусім нядаўна спраўна выконвалі партыйныя дырэктывы па правядзенню палітыкі „карэнізацыі".

3. 1936—1939 г.г. Перыяд цалкавітага дамініравання цэнтралістычных і рэпрэсіўных тэндэнцый у нацыянальнай дзяржаўнай палітыцы. Характэрнай з'явай стала не толькі значнае абмежаванне правоў нацыянальных меншасцяў, але і практычная ліквідацыя рэштак элементарных нацыянальных свабод. Паасобныя народы сталі ахвярамі сапраўднага генацыду. Нарасталі рэпрэсіі супроць усіх сацыяльных слаёў нацыянальных меншасцяў: сялян, рабочых, інтэлігенцыі, а нават супроць нацыянальных камуністычных лідэраў. Сталін абвясціў іх ворагамі народа.

Прыведзеная перыядызацыя, нягледзячы на парадаксальнае падабенства паміж паасобнымі перыядамі, з'яўляецца адзіным цэлым. Парадокс аб'яднання ў рамках адзінай дзяржаўнай палітыкі пачатковага беспрэцэдэнтнага пашырэння правоў нацыянальных меншасцяў і пазнейшага крывавага пазбаўлення іх гэтых правоў тлумачыцца, бадай, банальна. Сталін ніколі не ўспрымаў асноўных палажэнняў ленінскай нацыянальнай палітыкі ў якасці сталага элемента. Нацыянал-нэп для яго быў у значнай ступені дзеяннем тактычнага характару, кампрамісам у традыцыйным ленінскім духу паміж камуністычным ідэалам вялікай цэнтралізаванай, строга дысцыплінаванай шматнацыянальнай дзяржавай і рэальнымі інтарэсамі нацыянальных меншасцяў.

Нягледзячы на шматлікія супярэчнасці, нацыянальная палітыка ў Савецкім Саюзе была строга падпарадкавана задачам сацыялістычнага будаўніцтва, так як гэты працэс разумеў Сталін. Вынікі не мелі, безумоўна, рашаючы ўплыў на сённяшнае абліччa нацыянальных адносін у СССР.

*(Працяг будзе)*




## ТОЙ, ХТО ВАРОЖЫЦЬ, ТОЙ ЛІХОМУ СЛУЖЫЦЬ

У Кленіках, перад часоўняй, якая аддзяляе Клебаншчыну ад Загаці (часткі вёскі), крыжуюцца дарогі. Направа (калі ехаць ад Бельска) вядзе ў Чыжы, дзе памяшчаецца гміна. Мы паварочваем налева. Праехаўшы пяць кіламетраў паміж рознымі ўрочышчамі, мы апынімся ў Гародчыне — невялікай вёсачцы, якая, бы грыб, прысела паміж лясоў. У мінулым была яна фальваркам або асадаю, якая належала да горада, замка. Аб гэтым сведчыць яе назва. Потым была яна ўласнасцю нараўскага прабоства.

І вось у далёкім мінулым, калі была яшчэ паншчына, а служба ў войску трывала дваццаць пяць гадоў, жыла ў вёсцы пара маладых. Рыхтаваліся ўжо да шлюбу. Але пан, якому належала Гародчына, пазайздросціў іх шчасцю, а, відаць, і не ў смак было яму пазбыцца прыгожай дзяўчыны. І выслаў ён хлопца ў войска. Азначала гэта, што маладыя ніколі ўжо разам не будуць...

Мінуў год, пайшоў другі, а дзяўчына ніяк хлопца забыць не можа. Хаця б здалёк паглядзець, вока нацешыць. І давай яна па варожках хадзіць. Ніхто не ведае, як у бядзе дапамагчы. Аж чуткі пайшлі, што непадалёк Барысаўкі чмутар жыве. Завязала ў вузялок полаць сала, паўкапы яек і пайшла, калі на небе балавець пачынала. Расказала, што і як. Паглядзеў чмутар у аракул і кажа:

— Выхад ёсць. Як прыйдзеш дадому, зрабі так — пасля захаду сонца замкні хату і, высыпаўшы за вугал смецце, стань на яго, тварам на захад, і крыкні: „Гу-гу-гу, я тэбэ жду!“ Сама чакай. Але памятай, адно глянь на яго здалёк і ў хату уцякай.

Як параіў, так і зрабіла. Прыадзелася па-святочнаму і чакае. Не прайшло і хвіліны, як сказала закляцце, аж чуе, коні фыркаюць. Нехта едзе. Прыглядаецца — карэта ў тройку кавых запрэжана. Пад'ехала і каля яе спынілася. Забыла дзяўчына пра перасцярогу, калі ўбачыла ў карэце свайго каханага. А ён ужо ў пагонах, апрануты па-багацку.

— Сядай, — кажа прыадкрыўшы дзверы.

Тая ад радасці аб усім забылася, у карэту села і да свайго каханага туліцца. А ён нейкі дзіўны, халадам ад яго вее. Прыглядаецца да яго — з твару ён. Глядзіць на ногі — а там лапы курыныя. Так і забегалі ёй мурашкі па спіне. Здагадалася дзяўчына, хто ў карэце сядзіць і аб перасцярозе чмутара ўспомніла. А карэта не едзе, а ў паветры плыве. Сядзіць дзяўчына атрупелая, але віду не падае.

Заехалі ў гушчэвіну, і карэта спынілася. Выселі, а ён кажа:

— Лезь. Гэта мая хата.

Угледзецца дзяўчына, а там нара звычайная. Давай яна адцягваць — што кофту паправіць, што панчоху падцягвае. І раптам праспявалі раннія певні. Усё знікла. Стаіць дзяўчына сярод гушчэвіны і не ведае, куды кінуцца. Бяжыць наперад і моліцца ў думках. Ужо і сонца ўзышло, а яна ўсё бяжыць. Тут і поўдзень настаў. Аж чуе, пагоня за ёю. Спалохалася дзяўчына. Азіраецца наўкол — бачыць, хатка непадалёк стаіць. Яна туды. А там нябожчык на покуці ляжыць. Побач яго дзядок сядзіць і „Псалтыр“ чытае. Упала дзяўчына на калені і давай маліцца. А той ужо да дзвярэй скробаецца. Дзяўчына ўгледзела на падаконніку ружанец, доўга не думаючы, на клямку яго павесіла. Ліхі, бо ён за ёю гнаўся, цягне за клямку, а тая не паддаецца. І крычыць з-за дзвярэй:

— Браце, адчыні!

А нябожчык, як пачуў, дык давай уставаць. Здагадалася дзяўчына, што нябожчыкам вядзьмар, і перажагналася. Бачачы гэта, дзядок як чытаў „Псалтыр“, так і кінуў яго на грудзі нябожчыка.

— Браце, не магу! — крычыць нябожчык, — цэлы свет на мне ляжыць.

Растлумачыла дзяўчына дзядку што і як, а той кажа: — Гэта ж той самы чмутар на покуці ляжыць, да якога ты за парадай прыходзіла. Тады зразумела дзяўчына, дзе яна ёсць. Дабралася неяк дамоў, але доўга не пажыла. Памерла з перапалоху.

**Міхась Шаховіч**

## Сардэчныя тайны

Не ведаю сапраўды, ад чаго пачаць, таму што маё ўсхваляванне не дазваляе мне спакойна падумаць. Прычынай гэтага з'яўляецца не што іншае, як пісьмо нейкай распушчанай Малгажаты, надрукаванае ў тваёй рубрыцы ад 16 ліпеня 1989 года.

Гэтая маладзіца, напэўна, зрэшты, студэнтка, цяпер пытаецца ў цябе, што рабіць. Каб гэта ад мяне залежала, такіх дзяўчат вывозіў бы на нейкую выспу, каб яны і мужчыны не бачылі. На жаль, з'яўляюся толькі пажылым грэчкасеем, які ў гэтай галіне нічога не можа зрабіць.

Такіх недапечаных дзяўчат я добра ведаю, дзве такія студэнткі хацелі калісьці нават у мяне пераначаваць. Я чалавек добры ды гасцінны, як кожны беларус, — згадзіўся. Але калі пабачыў, што яны вытваралі ў пасцелі, амаль не абамлеў. А яны дзве к..., калі мяне заўважылі, не то што не перасталі кахацца, але яшчэ запрапанавалі мне, каб я ўлез у іхнюю грэшную пасцель. Хадзі, гаварылі, будзем рабіць групэнсекс, ці штосьці такое.

Гэтага маё мужчынскае сэрца не вытрымала. Выгнаў я іх у сярэдзіне ночы на вуліцу амаль голых. Але і ў такім становішчы мае дзяўчаткі знайшлі выхад: пайшлі ў клуб, а там ужо хлопцы ведалі, што з імі зрабіць.

І вось такія бессаромныя пішуць потым Сэрцайку, што „мая сяброўка намнога больш радасці мне дала, чым мой хлопец“. А паспрабуй ты з сабакай, можа будзе яшчэ лепш!!!

Аднак найбольш усхвалявала мяне штосьці другое. Вось тое менавіта, што такія „Малгажаткі“ не разумеюць, чым з'яўляецца твая рубрыка для пастаянных чытачоў. Я сам ведаю найменш пяцёх мужчын, яны наогул без сям'і, так як і я, якія выпісваюць „Ніву“ толькі таму, каб прачытаць твае дабрачынныя парады.

Аднойчы святам сустрэліся мы ў гасподзе. Калі мы сядзелі ў халадку ды папівалі піўцо, хтосьці запрапанаваў стварыць фан-клуб Сэрцайка?! „Ягелонія“ мае, чаму „Сэрцайка“ не можа мець?! Усе як адзін згадзіліся з ахвотай, а мяне, як найбольш адукаванага, папрасілі напісаць табе пісьмо.

З паважаннем
Кастусь, сакратар фан-клуба „Сардэчных тайнаў“

**Кастусь! А чаму ж выбары адбыліся без Сэрцайкі? Можа б мы неяк наладзілі супрацоўніцтва? Ой прыдаўся б Сэрцайку добры сакратар, прыдаўся б!**

**Дарагі самазванец! У тваім невялікім пісьме ты ўзняў столькі праблем, што аж у галаве круціцца. Галоўная аднак праблема для цябе — гэта распусныя дзяўчаты. Хачу цябе аднак запэўніць, што распуста дзяўчат не з'яўляецца адасобленай, што з'яўляецца яна даменай сучаснага чалавека, ды і не толькі сучаснага. Бо вось ты, напрыклад, прапануеш той Малгосі, каб паспрабавала з сабакам. А хто ж пачаў з сабакамі, як не чалавек?! Адкуль жа пайшлі венерычныя хваробы, як не ад жывёл? А ведаю нават вельмі сімпатычных паняў, якія ніколі не расстаюцца са сваімі вялікімі сабачкамі і нават спяць разам з імі.**

**Тое, аб чым мы гаворым сёння ўголас, а што раней сарамліва замоўчвалася, зусім не з'яўляецца адкрыццём для чалавека. Адкрыццём яно было б, можа, толькі для чалавека надзвычай цнатлівага, неспакушанага, ну, і, вядома, для моладзі, якая толькі ўваходзіць у жыццё і толькі пазнае яго. Але здаецца мне, што варта, каб і яна ведала, што ў жыцці добрае, а што дрэннае, і дзеля чаго сваё жыццё варта прысвяціць.**

**Дзяўчаткам, якія калісьці ў цябе пераначавалі, таксама як і той Малгосьцы, якая пісала ў „Ніву“, было відаць усё роўна, з кім яны кахаюцца. Калі не было хлопца — яны кахаліся ўдваіх, калі прыйшоў ты — яны сталі прасіць цябе, каб ты далучыўся да іх, — і быў бы ўжо „групэнсекс“. А калі б прыйшло яшчэ і дзесяцёх хлапцоў, думаю, яны таксама нешта прыдумалі б накшталт забавы ў бутэльку ці што іншае і не далі б ні табе, ні той дзесятцы занудзіцца.**

**Страшнае ва ўсім гэтым адно. Такія „забавы“ з каханнем нічога супольнага не маюць. Аднак, чуецца часамі, што сярод педэрастаў (мужчыны з мужчынамі) і лесбіянак (жанчыны з жанчынамі) здараюцца і трывалыя пары. Найчасцей, аднак, шукаюць яны партнёраў, як галодныя сабакі, і часта, як сабакі, у падваротнях паміраюць.**

**Сэрцайка**

## Кухонныя парады

### З КАБАЧКОЎ

Кабачкі ў нас, на жаль, часта недаацэньваюцца. Найлепшыя яны бываюць, калі даўжыня іх яшчэ не перавышае 25 см і калі яны яшчэ не зусім спелыя. Кабачкі смажаць на алеі, абабраўшы іх і нарэзаўшы дробнымі скрылёчкамі ды памачаўшы ў муку, але яшчэ лепшыя яны, калі спалучаць іх з іншымі гароднінамі дадаткамі ці з мясным фаршам.

**Кабачок, запяканы з фаршам.** Абабраны кабачок перарэзаць уздоўж напалавіну, выняць (найлепш лыжкай) насенне.

Падрыхтаваць фарш. Зварыць рыс. Змеленае мяса (бараніну ці свініну) падсмажыць на патэльні. Выняць мяса, а на тлушчы падсмажыць пасечаную цыбулю (калі бараніна — дадаць таксама зубок пасечанага часнаку). Перац і соль дадаць у той час, калі будзем размешваць мяса з рысам. Фаршам палажыць у палавінкі кабачка. У каструльцы кабачкі класці так, каб фарш быў зверху. Даліць булёну і тушыць пад пакрыўкай. Пазней на палавінкі кабачкоў палажыць скрылёчкі памідораў без скуркі, пасыпаць сцертым жоўтым сырам і запячы ў духоўцы. Падаючы, пасыпаць кабачкі зялёнай пятрушкай і перарэзаць іх упоперак на порцыі.

**Тушаны кабачок.** Кабачок абабраць і перарэзаць напалавіну, выняўшы насенне.

Фарш. Сырое змеленае мяса падсмажыць на тлушчы з пасечанай і падсмажанай раней цыбуляй. Дадаць намочаную і выціснутую булку, добра перамяшаць. Убіць адно яйка, дадаць соль і перац па смаку. У кабачкі накладаць фарш і ставіць іх у каструльцы фаршам уверх, падлажыўшы лыжку масла. Даліць булёну і тушыць.

Калі кабачок ужо амаль мяккі, даліць шклянку кіслай смятаны, размешанай з лыжкай мукі, лыжкай памідорнага перацёру і соллю. На талерках паліць кабачок соусам. Вельмі смакуюць яны з булкай або белым хлебам.

**Кабачкі з гароднінай.** Кабачок абабраць, перарэзаць, выбраць насенне і нарэзаць костачкай. Пасыпаць соллю і няхай так паляжыць (ад раніцы да поўдня ці нават да вечара). Кінуць на сітка і адцадзіць.

Некалькі цыбулін (5-6 да вялікага кабачка) абабраць, пасячы і ўсыпаць на паўшклянкі разагрэтага алею. Крыху падсмажыць. Выняць з алею цыбулю і адцэджаныя кавалкі кабачка смажыць на тым самым алеі з нарэзанымі двума-трыма вострымі папрыкамі без насення. Дадаць цыбулю і пару лыжак памідорнага перацёру або працёртыя праз сіта памідоры. Гародніна павінна тушыцца ў памідорным соусе да канца, пакуль не будзе зусім мяккая.

**Гаспадыня**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Удзельніцы конкурсу „Беларуская песня '89" для школьнікаў з Ляўкова. Фота Яніны Чэрнякевіч.

## ЯКУЦКАЯ КАЗКА

**Частка 3. Пачатак у папярэдніх нумарах.**

Выбег на крык Хаджугур, спужаўся. Кінуўся да яе, хацеў за крыло схапіць, ды не паспеў. Узляцела жураўка, адно толькі пяро ў руках у яго пакінула.

Сем цяпер жураўлёў над юртай развітальны круг робяць. Гэтак, кругамі, і вышыню пачалі набіраць. Усё вышэй і вышэй ляцяць... Вось і за воблакам схаваліся.

Паглядзеў ім услед Хаджугур, махнуў рукою, сказаў:

— А прасіла ж толькі ў руках шкурку патрымаць! Ніколі больш гэтым жанчынам верыць не буду!

Сеў ён тут жа пасярод двара, пяро побач паклаў, пачаў з нажом забаўляцца.

Так і застаў яго старшы брат, калі трохі раней часу з палявання вярнуўся.

— Адкуль у цябе нож? — спытаў.

— Жонка твая падарыла.

— А гэтае пяро адкуль?

Маўчыць Хаджугур. Брат яго за плечы трасе, сцяміў, што нешта нядобрае здарылася.

Тут заплакаў Хаджугур:

— Я незнарок шкурку знайшоў. Жонка твая папрасіла: дай толькі ў руках патрымаць. А сама надзела шкурку і паляцела. Стэрхі яе з сабою паклікалі.

Ніколі Юджыян не біў брата ад злосці, а зараз Хаджугур упершыню ўбедаў, які той у гневе страшны. Цяжкім бізуном біў, сабакам абзываў. Нарэшце спагнаў першую злосць, апамятаўся. Адпіхнуў Хаджугура, кінуўся ў стайню, вывеў з праварыны каня, ускочыў на яго. Залаціста-рыжы конь, хвост і грыва светлыя, буланай масці конь пад ім аж танцуе. Юджыян з двара паехаў, на брата глянуў, толькі белае пяро з зямлі падняў.

Імчыцца Юджыян на буланым кані, у адной руцэ ў яго павады, у другой — жураўлінае пяро. Пяро паварочваецца, паказвае, куды ехаць трэба.

Доўга ехаў Юджыян. Рэкі на кані пераплываў, азёры абмінаў, праз густы лес прадзіраўся, па раўніне імчаўся. Начаваў пад голым небам, ад ветру за шырокай спіной каня хаваўся. Колькі начлегаў было — і лік страціў.




Нарэшце пад'ехаў да паднօжжа высокай гары. Паднялося пяро, вострым канцом у гару паказала. Юджыян пакінуў каня на зялёным лузе пасвіцца, пачаў падымацца. Стромкія схілы гары. Юджыян за першы дзень толькі чвэрць вышыні адолеў. На другі дзень да палавіны дабраўся. А там у яго і сілы прыбавіліся — убачыў белую юрту на вяршыні. Ды скалы ўсё больш стромкія, расколіны ўсё шырэйшыя, камяні ўсё вастрэйшыя. Колькі яшчэ лез-караскаўся, а ўсё-такі да вяршыні дабраўся. Зайшоў у юрту.

Юрта прыгожа прыбраная, у ачагу вясёлы агонь палае. Пасярэдзіне залатая калыска стаіць, птушка чычах яе калыша. Убачыла птушка, што чалавек зайшоў, страпянулася і крыкнула: „Чып-чычып!" Потым чалавечым голасам загаварыла:

— Ці не Юджыянам цябе завуць? Ці не жонку сваю шукаеш?

— Юджыянам завуць. Жонку шукаю, — адказвае, а сам з калыскі вачэй не зводзіць.

— Што ж, — кажа птушка, — паглядзі на свайго сына.

Нагнуўся Юджыян над калыскай. Прыгожае дзіця там ляжыць. Убачыла Юджыяна, пухленькімі ручаняткамі да яго пацягнулася.

— Чы-чып! — птушка сказала. — Часцінка да цэлага хінецца, маленькая крывінка да роднай крыві цягнецца. Пазабаўляй сына, Юджыян, стамілася я калыску калыхаць.

Юджыян у белага гарнастая перакінуўся, уверх-уніз у калысцы забегаў, скача, куляецца. Засмяўся хлопчык.

Тут лёгкія крокі пачуліся, дзверы рыпнулі. Птушка сказала:

— Захоча ці не захоча бачыць цябе жонка? Хавайся хутчэй!

Юджыян-гарнастай за шкурамі прытаіўся. А дзіця моцна заплакала, бо забаўку сваю страціла.

Убегла ў юрту белая жураўка, шкурку хуценька скінула, заспяшалася да дзіцяці, на рукі ўзяла. Адчула дзіця матчына цяпло і сціхла.

Тады гарнастай з-пад шкур вылез і зноў Юджыянам зрабіўся. Шкурку схапіў і ў агонь укінуў. Крыкнула красуня, азірнулася. Мужу з дакорам прашаптала:

— Ах, навошта ты гэта зрабіў?!

(Працяг на стар. 10)

Міхась Пазнякоў

### У РОДНЫМ КРАІ

Грае вечар на цымбалах,
Плаўна музыка цячэ,
Месяц у блакітных далях
Ад усмешкі паярчэў.

Пахне мёдам і укропам
Напаўсоннае сяло,
І малінавым сіропам
Сонца захад абліло.

І плыве з садоў у сэрца
Сакаўны птушыны грай.
Ён Радзімаю завецца —
Найцудоўны гэты край.

### РАСЧАШУ СОНЦА

Па-над белым звонкім гаем
Ранішай празрыстаю
Косы-промні распускае
Сонца залацістае.

Грабянец густы, прыгожы
Я ў матулі папрашу
І залезу на бярозу,
Косы сонцу расчашу.

### ПЕРАПЁЛЧЫНЫ ПЕСНІ

Толькі ніва залатая
У промнях сонейка заззяе,
Клапатліва з краю ў край
Перапёлка заспявае:
„Жаць пара! Жаць пара!"

А як зойдзе ўвечар сонца,
Зазіхціць на гарызонце
Праспелая зара,
Перапёлка ўсім напомніць:
„Спаць пара! Спаць пара!"

### ЛЕТНІ ВЕЧАР

Вечар
Сінюю хусцінай
Наваколле ахінуў.
Калыханкай
Салаўінай
Паланіў ён
Цішыню.

Цёплым мёдам
Веюць ліпы.
Зоркі
Весела мігцяць.
З возера
Зух-месяц выплыў,
Каб у небе
Пагуляць.


Эля Несцярук з Ласінкі добра выступіла ў сёлетнім дэкламатарскім конкурсе.
Фота Я. Чэрнякевіч.

## РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ"

**Бугай** — лес над Бугам.
**Будзільнік** — певень.
**Буквар** — буковыя дровы ў печ.
**Бульвар** — гаршчок, у якім вараць бульбу.
**Булькат** — каларадскі жук (стонка).
**Бурак** — злосны чалавек.
**Буракавод** — дождж з віхурай.
**Буралом** — ломік бурага колеру.
**Буталь** — туфель.
**Бюракрат** — турма, вязніца.
**Бяднота** — фальшыўка ў музыцы.
**Бялок** — снег.
**Вабік** — амант, палюбоўнік.
**Вагон** — апаратар вагі.
**Ваданос** — вадкасць з носа.
**Вадзіцель** — той, хто жыве ў вадзе.
**Важатая** — жанчына за прылаўкам.
**Валадар** — цялятка.
**Валакно** — акно ў хляве.
**Валасок** — быдлячы напітак.

„ядань"

### ШЧАНЮК І СВІННЯ

(байка)

Шчанюк на вуліцы гуляў —
Свінню знаёмую спаткаў,
А яна ледзь-ледзь плялася,
Чагосьці ўдосталь напілася.
Шчанюк на лапках прыпаднаўся
І са свіннёю прывітаўся:
„Дзень добры, цётачка свіння!
Рад сустрэцца з вамі я!"
Тут свіння свой лыч задрала,
З вялікім гонарам сказала:
„Я — не свіння табе, а я — Хаўруша!
Дурны ты пень пад капялюшам!
Я іншаю даўно ўжо стала:
У градах рыцца перастала,
Жыву я зараз у сталіцы,
Хаджу ў тэатры і кіно,
Ем сыры і п'ю віно."
Шчанюк слухаў і здзіўляўся,
Пасля ў свінні запытаўся:
„Дзе ж тых сыроў, віна набрацца,
Каб вось так, як ты, нажрацца?
Хаця жывеш ты ў сталіцы,
А п'еш, ясі яшчэ ў карыце
І, мусіць, брук сталічны рыеш,
Што лыч ніяк ты свой не змыеш?"
. . . . . . . . . . .
Свіння свіннёю застанецца,
Хоць і Хаўрушаю завецца:
Яна, дзе толькі не пабудзе,
Пакіне месца сваё ў брудзе.

**Аляксандра Елісеенка**






Але ж доктар, вы сказалі паказацца вам праз тыдзень...

## ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

567
Вялікасць чалавека праяўляецца ва ўменні ліквідаваць сваю мізэрнасць.

568
Краіна, у якой можна крытыкаваць мёртвых, але нельга крытыкаваць жывых, — паўмёртвая.

569
Камень, якім гісторыя прываліла беларускую мову пачынае звінець жывым адгалоссем.

570
Калі беларусы павераць у сваю паўнацэннасць, тады абясцэняцца іх фальшывыя сябры.

571
Сістэма, якая абапіраецца на фундаменце маны, часта на штандарах злоўжывае словам „праўда".

572
Есць вусны, для якіх мана мае смак мёду, а праўда — смак дзёгцю.

573
Будзь крытычны ў адносінах да свайго крытыцызму.

574
Хаваючы сваю нацыянальнасць, топчам сваю чалавечнасць.

**Алесь Барскі**

### НЕ ВЫПАДАЕ

Сустрэліся два таварышы, якія даўно не бачыліся. Адзін прагульваўся, дыхаў свежым летнім паветрам і радаваўся жыццю. Другі ішоў з магазіна з гаспадарчымі сумкамі і меў заклапочаны выгляд.

Першы кінуўся насустрач і раскінуў рукі для абдымкаў. Другі як быццам не заўважыў гэтага і крочыў уперад.

— Здароў, сябрук, няўжо не пазнаеш?

— Прабачце, я дрэнна бачу.

— Дык прыпыніся на хвілінку, пагамонім.

— Не маю часу.

— Але ж яшчэ рана. Хоць прывітацца можаш?

— У мяне заняты рукі.

— Тады пастаў свае сумкі.

— Баюся спазніцца дадому.

— Кінь ты, дадому яшчэ ніхто ніколі не спазніўся. Ты хоць памятаеш мяне?

— У мяне слабая памяць. Старасць надыходзіць, склероз.

— Якая старасць? Табе ж толькі сорак.

— Але ж ужо і не дваццаць.

— Як справы на рабоце?

— Нічога, выконваем.

— Раскажы як жонка, дзеці.

— Не ведаю, ад самай раніцы не бачыў.

— Зайшоў бы калі-небудзь да мяне ў госці, я жыву тут недалёка.

— Не магу, баляць ногі.

— Дык я завітаю да цябе, дай свой адрас.

— Няма чым запісаць.

— Каго-небудзь з нашых сустракаў? Сяброў, з якімі разам вучыліся, працавалі?

— Ці мала каго я сустракаў? Усіх не ўпомніш.

— Э, брат! Ды ты, бачу я, нікога не хочаш ні пазнаваць, ні паважаць. Самога сябе хоць паважаеш?

— Не выпадае...

І ён безуважна патупаў далей.

**Мікола Вяршынін**
(са зборніка „Кубік Рубіка")

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### КАЛЯ МЛЫНА, КАЛЯ МЛЫНА

(народная)

Каля млына, каля млына
Расцвіла каліна,
Там дзяўчына воду брала,
Сама чарнабрыва.*

Яна брала, яна брала,
Яшчэ набірала,
Адна дачка ў маці была,
Да й та гора знала.

Пусці, маці, пагуляці,
Я не забаруся,
Як запяе першы певень,
Я дамоў вярнуся.

Пяе певень, пяе другі,
Шчэ й кура сакоча...

Кліча маці вячэраці,
А дачка не хоча.

— Ой, вячэрай, мая маці,
Калі наварыла.
Мне сягоння, мая маці,
Вячэра не міла.

Ой, пайду я ў лес па дровы,
Ой, гора мне, гора.
Не пайду я за старога,
Барадою коле.

А пайду я за такога,
Што не мае вуса.
Ён на мяне кіўне, моргне,
А я засмяюся!

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.




*

Падымаючыся ў ліфце на сто дзевяты паверх, пажылы мужчына пытаецца ў ліфцёра:

— У вашай прафесіі напэўна многа цяжкасцей. Скажыце, самае непрыемнае гэта пад'ёмы?

— Не.

— Няўжо спускі?

— Таксама не.

— А што ж тады?

— Роспыты, выключна дурныя роспыты.

*

Том рашае дамашнюю задачу па фізіцы. Падыпоўшы да дзвярэй ваннай, у якой мыецца бацька, ён запытаўся:

— Папа! Што адбываецца з целам, апушчаным у ваду?

— Вядомая справа, хопіць толькі целу апусціцца ў ваду і зараз абавязкова папросяць да тэлефона.

*

— Я ўжо больш не магу жыць са Стэнам, — плачучы, скардзіцца сваёй маме маладая жонка. — Ён прымушае мяне нервавацца без дай прычыны, і я худзею проста на вачах!

— Беднае дзіця, хуценька кідай яго!

— І кіну, як толькі ён давядзе мяне да васьмідзесяці кілаграмаў.




Калі апынецеся ў такой сітуацыі, што горш быць не можа, тады ёсць цудоўны выхад — прывыкнуць.